Пасля зімовых канікулаў я падаў дырэктару заяву, каб вызвалілі мяне ад работы. Ён разгубіўся. Дапытваўся, можа, хто абразіў ці пакрыўдзіў, угаворваў закончыць навучальны год. Я разумеў свой абавязак, але заставацца не мог: усё валілася з рук — клікала воля, каб нішто не нагадвала гэтыя сем пакутлівых гадоў. Пры мне Яўген Паўлавіч пазваніў у райана. Было чуваць, як накінуўся на яго Маеўскі. Дырэктар развёў рукамі, аддаў мне заяву.

Прыйшлося ехаць у раён. Загадчык райана спакушаў мяне з новага навучальнага года пасадаю завуча ў раённай сярэдняй школе, абяцаў кватэру, добрую нагрузку жонцы. Пры мяккасці характару я быў непахісны. «Вас прымусіць пракуратура працаваць да канца навучальнага года», — перайшоў да пагрозы Маеўскі. «Сем гадоў я вам быў не патрэбен, як жабрак, выпрошваў работу на кавалак хлеба, звальненнямі кампраметавалі перад вучнямі і бацькамі. Вы ўяўляеце, у якіх умовах я жыў і працаваў. Прабачце, больш не магу заставацца ні дня».

І ўсё ж давялося ісці да пракурора, выслухаць угаворы і абяцанні і настояць на сваім. Мяне вызвалілі па ўласным жаданні з добраю характарыстыкаю і падзякаю за працу...

Ва ўсіх класах даў апошнія ўрокі, прадыктаваў заданні на дом і з камяком у горле выйшаў са школы. Маю нагрузку развярсталі паміж настаўнікамі. Яны былі радыя дабаўцы да зарплаты, а некаторыя шкадавалі, што пакідаю школу. Я жартаваў: «Застаюцца ў заклад жонка і дзеці».

Калі ўдасца выехаць, пэўна не ведаў. Люты — самы мяцельны ў Сібіры месяц. Снежныя бураны накручваюць сумёты аж да стрэх, завальваюць двары, што сусед адкопвае дзверы ў суседа. Мяце і круціць так, што выцягнутая рука не відаць. У такую завею аднойчы мы з Аляю ледзь не загінулі за некалькі крокаў ад свайго плота. Пакуль ішлі з педсавета па вуліцы, заблудзіць не было як, а сышлі ў наш лажок і па пахі патанулі ў снезе. Грэбліся, грэбліся, тупкая дарога прапала. Вецер збіваў з ног, над галавою, як белыя ведзьмы, свішчуць і круцяцца шорсткія пасмы, поўныя снегу валёнкі спаўзаюць з ног. Выбіліся з сіл і папаўзлі, а куды, і самі не ведаем. Трымаемся, каб толькі не згубіць адно аднаго, паўзём у крутаверці гулкай сцюдзёнай прорвы. Я лёг і прытуліўся шчакою да шорсткага сумёту, і здалося — зусім блізка мільгнула кропелька святла. Няўжо трызненне? Не, не знікае, дрыжыць і мільгае. Я ўхапіў Алю за каўнер кажушка, і папаўзлі на агеньчык. Пераваліліся цераз замеценае прасла плота і дагрэбліся да свайго ганка. Увайшлі, як два снежныя слупы.

Электрычнасць даўно выключылі, на стале гарэла ўкручаная лямпа і выратавала нас.

Такая ж завіруха ўсхадзілася перад маім ад'ездам. Гусенічныя трактары з вялізнымі клінамі прабівалі дарогу машынам па збожжа, пакуль лютавала завея. Раптам усё сціхла, заіскрыліся дзівосныя сумёты, ударылі маразы з барвовымі світаннямі і малінавымі заходамі. У Барабінск збіраўся ехаць калгасны шафёр, марудны, губасты і маўклівы Ахмед Асанаў, і паабяцаў узяць і мяне.

Ранічкаю з фанерным чамаданчыкам я прыйшоў да яго. Мяне праводзілі Аля і Таня. У двары пад грузавіком невялічкае вогнішча разагравала матор. Я развітаўся з дачушкаю на вуліцы, яна выцерла рукавічкаю вочы і пабегла ў школу. Мы зайшлі ў хату. Ахмед павольна сёрбаў зацірку і маўчаў. У Алі першага ўрока не было, і яна цярпліва чакала... У сенцах пачуўся тупат ног, і ў хату ўваліўся ўвесь мой клас: заплаканая Таня сказала, што я ад'язджаю, яны сарваліся з урока і прыбеглі развітацца. Я расчуліўся да слёз. Шкода было пакідаць гэтых шчырых, з самага маленства працавітых, прагных да ведаў дзяцей, якія яшчэ не бачылі радасці, але і заставацца не было як. Мае мілыя вучні махалі мне ўслед, пакуль машына не завярнула за апошнюю хату.

Ад Барабінска да Масквы ў перапоўненым, душным і тлумным вагоне ехалі больш за чацвёра сутак. На станцыях сыходзілі адны, садзіліся другія са сваімі размовамі і навінамі. У Кунгуры амаль усе пасажыры кінуліся да прывакзальных ларкоў, і вагоны напоўніліся гліняньмі і фарфоравымі статуэткамі «Гаспадыні меднай гары», саматужнымі ўпрыгожаннямі з уральскіх самацветаў, капілкамі ў выглядзе размаляваных катоў і сабачак са шчылінамі для манет.

Па вагонах часта шасталі не так даўно амнісціраваныя «мазурыкі». Я іх пазнаваў з першага погляду, як даўніх знаёмых па бараках і брыгадах, і адшываў некалькімі сказамі на блатным жаргоне. Відаць, лічылі за свайго і пакідалі за мною «сферу дзейнасці».

У сталіцу прыехаў 16 лютага. Выйшаў на прывакзальную плошчу, агледзеўся, аж не верылася, што я ў Маскве. Не, яна — стольная! У кіёску купіў і разгарнуў свежую «Праўду». 14-га адкрыўся Дваццаты з'езд партыі. На першай старонцы — здымак Прэзідыума, а над ім у нішы скульптура Леніна на ўвесь рост. Толькі Леніна. Чаму ж няма таго, хто яго так доўга засланяў на плакатах і медалях? Яны ж побач у Маўзалеі? Падумаў і не прыдаў вялікага значэння.

Адрас Вікторыі Сяргееўны ведаў на памяць, але ў каго ні пытаўся, дзе той Лучнікаў завулак, толькі пацiскалі плячамі і разводзілі рукамі. Стаяў на ўскрайку тратуара са сваім няўклюдным

чорным чамаданам, глядзеў на людную мітуслівую плошчу, на галубоў у лужынах веснавой вады, на адліжную, у лёгкай смузе Маскву. Апошні раз я яе бачыў сем гадоў назад цераз краты «сталыпінскага» вагона, а ў сваёй таежнай глушы толькі па радыё чуў бой курантаў і знаёмыя галасы Левітана, Высоцкай і Тобіяша. Не верылася, што некалі ступлю на яе вуліцы і плошчы, убачу Крэмль, Спаскую вежу і Маўзалей. Але няма чаго раскісаць, трэба неяк дабірацца на той невядомы завулак. І раптам успомніў: Вікторыя Сяргееўна казала, што побач Політэхнічны музей і Лубянскі праезд. Там жыў, хадзіў і памёр Маякоўскі.

Першая думка — сесці ў таксі, але страшна — колькі гэта можа каштаваць? Кожная ж капейка на ўліку, а калі яе яшчэ заробіш?

Пачаў дабірацца на аўтобусах і тралейбусах, надакучаць роспытамі. А на мяне глядзелі падазрона. Па маім выцертым, у асцюках, доўгім паліце, злінялай шапцы і тоўстых мокрых валёнках, відаць, здагадваліся, адкуль я выскачыў, і маглі паклікаць міліцыю.

Дабраўся-такі на Марасейку, а там ужо рукою падаць да Лучнікавага завулка. Стары дом з брудным абшарпаным пад'ездам, дзверы, абабітыя дзіраваю цыратаю з касмыкамі чорнай ваты, на вушаку, як гузікі ў гармоніку, белыя кнопкі электрычных званкоў. Знайшоў патрэбны, далікатна націснуў і доўга стаяў. За дзвярыма пачуліся галасы, нехта некага гукаў, ляснулі засаўкі. Дзверы адчыніла невысокая сіваватая жанчына, падобная на Вікторыю Сяргееўну, і ўпусціла ў доўгі цемнаваты калідор з нейкімі куфрамі, скрынкамі, падвешанымі на сценах бляшанымі ваннамі і веласіпедам пад столлю. «Вікця, прымай госця». З суседняга пакоя выйшла мілая Вікторыя Сяргееўна і прадставіла сваю старэйшую сястру Людмілу, «караган-дзінку са стажам». Пакуль сёстры сядзелі ў лагерах і ссылках, іх вы-ракліся мужы (не ў прыклад многім жонкам), але ў абедзвюх выраслі слаўныя сыны, шчыра адданыя мацяркам. Яны ўтрымалі гэтую «каму-налку» і зберaглі ўсё, што маглі зберагчы, — сумленне і добрую душу.

Я адчуваў сябе няёмка і скавана. І не дзіва, каб не здзічэць за столькі гадоў. Ступаў на дыбачках, каб нікога не патрывожыць, каб шматлікія суседзі не ўпікалі маіх гаспадынь «заезджым домам». Па калідоры і ў кухні шасталі і гучна гаварылі жанчыны ў доўгіх злінялых халатах, з папяровымі папільёткамі ў валасах, нешта варылі і смажылі на сваіх керагазах і прымусах. Я цярпліва чакаў, калі яны схлынуць, каб прайсці да ўмывальніка.

Праз некалькі гадзін, бачачы непадробную шчырасць і нязмушаную ўвагу мілых сясцёр і іх сыноў, я адчуў сябе смялей і вальней.

Мне хацелася пахадзіць па Маскве, пастаяць у доўгай чарзе да Маўзалея Леніна, наведаць Траццякоўку, з’ездзіць у Хамоўнікі, падыхаць паветрам Талстога, пабыць у кватэры Чэхава, пакланіцца Пушкіну. Вікторыя Сяргееўна збіралася пайсці разам, але я адмовіўся, каб не кампраметаваць сваім таежным выглядам, а схлусіў, што хачу самастойна паблукаць па сталіцы.

Увечары толькі і гаворкі было пра партыйны з’езд. Усе чакалі вялікіх змен, асцярожна гаварылі пра нейкія новыя ацэнкі ролі Сталіна, хоць усё яшчэ азіраліся, баючыся яго і мёртвага. Але ўсюды адчуваўся ўздым, раскаванасць, болей было ўсмешак і светлых абліччаў.

На другі дзень Вікторыя Сяргееўна сказала, што ўвечары ідзём у МХАТ на «Крамлёўскія куранты». Я ніколі не быў у гэтым славутым тэатры і чакаў вечара, як малое дзіця навагодняй ёлкі. Білеты ёй дастала Жамчужына. Я адпрасаваў сваю адзіную белую кашулю і стракаценькі гальштук, навёў на штаны стрэлачкі, мне падабралі чаравікі сына Людмілы Сяргееўны. Каб не вельмі кідацца ў вочы, у тэатр мы прыехалі незадоўга да пачатку спектакля. У гардэробе і вузкіх калідорах я аж зажмурыўся ад бляску генеральскіх пагонаў, гузікаў, ордэнаў і лампасаў, ад Зорак Герояў, ад кідкіх жаночых убораў. Амаль усе былі з ордэнскімі планкамі і дэпутацкімі значкамі, галаву п’янілі пахі тонкіх духоў. Куды я трапіў? Тузануў за вуха, ці не сон гэта. Я цicнуўся да сцяны, каб нікому не замінаць, глядзеў на шчаслівых людзей, а яны, як даўнія знаёмыя, стаялі купкамі, гучна гаварылі, жартавалі, смяяліся. Каб не кідацца ў вочы, я папрасіў маіх спадарожніц паказаць нашы месцы. Яны былі на першым ярусе балкона, па правую руку ад сцэны. Пад намі была ўся зала. Пасля трэцяга званка па праходзе ішла невысокая жанчына ў чорным плацці з расшытым бісерам рыдыкюлем, белыя кароткія валасы зачэсаны назад. У зале загрымела авацыя. Жанчына спынілася каля першага рада, павярнулася да публікі, пакланілася на ўсе бакі і села. Авацыя працягвалася. Па зале прашалясцела: «Кніпер-Чэхава». Фантастыка! Я бачу тую самую Вольгу Леанардаўну, якая да апошняй яго хвіліны была з вялікім Чэхавым, ведала Талстога, Шаляпіна, Горкага, Станіслаўскага, Левітана і Купрына, Андрэева і Буніна. І вось яна некаму ўсміхаецца, ківае прыгожай галавой, папраўляе срабрыстыя валасы.

Пачалі цямнець люстры. Сэрца заміpae ад хвалявання: вось-вось рассунецца заслона з чайкаю і пачнецца цуд. Але зноў воплескі скаланулі залу. Усе ўсталі, усталі і мы, не ведаючы чаго. Якраз насупраць нас ва ўрадавую ложу ўваходзілі Хрушчоў, Булганін, Мікаян, Суслаў і некалькі незнаёмых у цывільным. Я толькі цяпер зразумеў, што трапіў на спектакль для дэлегатаў Дваццатага з’езда партыі. Пасля ўсяго

перажытага апынуцца ў адной зале з кіраўнікамі партыі і дзяржавы, з лепшымі людзьмі краіны здавалася неверагодным, а часам нерэальным. З'яўленне Барыса Смірнова ў ролі Леніна сустрэў шквал апладысментаў. Ён быў такі жывы, такі натуральны, велічны і просты і поўнасцю супадаў з маім уяўленнем Правадыра ад самага дзяцінства. Увага гледачоў раздвойвалася паміж сцэнаю і ўрадаваю ложаю. Хрушчоў ажыўлена ўсміхаўся, глядзеў у розныя бакі. Калі ў кабінеце Леніна з'явілася магутная постаць Барыса Ліванава ў ролі інжынера Забеліна з клуначкам пад пахаю, Мікаян пакратаў Мікіту Сяргеевіча за плячо, звярнуў увагу на сцэну і весела засмяяўся, потым частаваў суседзяў, відаць, цукеркамі з круглай бляшаначкі. Я ў той вечар яшчэ не ведаў усяе праўды, якую сказала партыя на гэтым пераломным з'ездзе, але на памяць міжволі прыходзілі мае сябры па агульных пакутах, паплечнікі і напарнікі на лесасеках і бесперапынных пагрузках. Дзе яны, маладыя, сумленныя, адданыя народу і роднай зямлі? Хто знойдзе іх магілы ў вечнай мерзлаце?

Гэты вечар у тэатры, размовы, здагадкі, чуткі і спадзяванні перавярнулі ўсю душу, далі сілу і веру, што пачынаецца іншае жыццё ў нашага адданага, непахіснага і незласлівага народа. Можа, нешта зменіцца і ў мяне. Але я яшчэ не ўяўляў, куды вынесе лёс, што чакае заўтра, дзе мой прытулак, хто сустрэне, хто адштурхне. Марыў аб адным — усім астатнім жыццём давесці, што заўсёды быў адданы свайму народу і Радзіме, ні ўчынкам, ні думкаю ніколі не здрадзіў ідэалам, у якія паверыў з маленства, якім быў адданы і верны ў бядзе і пакутах.

Я марыў пасяліцца ў ціхім раённым мястэчку, пры рэчцы і лесе, вучыць дзяцей дабру і сумленню, любові да пявучага роднага слова, адкрываць скарбы людскога розуму і духу.

Праз два дні з такімі марамі начным цягніком выехаў у Мінск. Толькі за Вязьмаю змарыў сон. Пад хісткі грукат колаў сніліся за хвалістымі сумётамі мая хата, наўкол, як прывід, заінелая тайга, над срэбна-блакітным прасторам — вялікі месяц і буйныя зоры. Я адчуў цёплае дыханне прытуленага да грудзей маленькага сына і пачуў яго настойлівы галасок: «Тата, дастань Месяц».

Прахапіўся і ўспомніў, што там даўно ўжо развіднела, над хатамі гайдаюцца белыя слупкі дыму, а наўкол — такія сінія снягі. Аля з Таняю спяшаюцца ў школу. Хто ж ім праб'е ў сумётах сцежку?.. Калі зноў будзем разам? І расла трывога: «Куды еду, дзе прыхіну галаву, каму я патрэбен?»

За акном шарэла світанне. На адхонах сям-там яшчэ ляжалі лапікі пачарнелага снегу. Відаць, будзе ранняя вясна. Што яна мне прынясе? Адлігу ці зноў сцюжу?

Замільгалі назвы беларускіх станцый. Ад хвалявання хадзіў і хадзіў па праходзе вагона — думаў, строіў планы то светлыя, то змрочныя. Але колькі ні плануй, жыццё ўсё вырашае пасвойму і нечакана выносіць зусім на іншы бераг.

Вынесла яно і мяне ў свет, пра які я і не адважваўся марыць.

Я пражыў доўгае, складанае, пакутнае і цікавае жыццё, аж не верыцца, што ўсё перажытае было са мною. А было, і нічога забыць нельга. Я дзяліў горкую долю свайго народа і шчаслівы, што цяпер магу паспавядацца за сябе і сваіх незваротных сяброў.

*Красавік 1987 — сакавік 1988 гг.*

# *РАЗВІТАННЕ*

*Адказаў няма на пытанні,*
*Ні — важных і мудрых высноў...*
*Настала пара развітання*
*З надзеяй сустрэцца ізноў.*

**САМ САБЕ**

Я і ў няволі вольны быў ,
Бо верыў, што збавенне прыйдзе,—
Каго хацеў, таго любіў,
А ненавісных
ненавідзеў.

Ішоў у замець след у след,
Як ходзяць толькі лесарубы,
І быў са мной уласны свет
Круты,
бязлітасны
і грубы.

Так існаваў я з году ў год,
Складаў то оды, то праклёны,
То быў мой свет, як чорны лёд,
А то — блакітны і зялёны.

Сабе не здраджваў я нідзе,
Бо верыў, што збавенне будзе,
Не для мяне, дык для людзей,
Што мараць кожны дзень аб цудзе.

Я не чарсцвеў і не грубеў,
Не прыстасоўваўся ніколі,
Бо верны толькі сам сабе
І у няволі, і на волі.

**СПОВЕДЗЬ**

Можа, гэта апошняе лета
Каля ціхай празрыстай вады,
Можа, ў жніўні ці ў студзені Лета
І мяне паглыне назаўжды.

Застануцца пажоўклыя кніжкі,
Што, магчыма, ніхто не чытаў,
Што маўчаць, як пустыя кілішкі
Ці як звон, што званіць перастаў.

Можа, заўтра, а можа, і сёння
У трывозе ці ў ціхай журбе
На зялёным і росным улонні
Прачытаю самога сябе

І даверліваму чалавеку,
Забароны зламаўшы мяжу,
Пра сябе, як гісторыю веку,
Да драбніцы ўсё раскажу,

Бо, да памяці вечна прыкуты,
Што спакою дасюль не дае,
Прыгадаю чужыя пакуты
І пра радасці ўспомню свае.

Іх майму пакаленню хапала:
Сем стагоддзяў за семдзесят год
Мы прайшлі. Дзе нага не ступала,
Узнімаўся і падаў народ.

У прамовы хісталася вера,
Калі ўсё засланяла хвала,
Бо звінела на пласе сякера
І дарога да скону вяла.

Ну а я, не спакушаны лёсам,
Праз ружовы не ўбачыў туман
За усмешкамі горкія слёзы
І пусты патэтычны падман.

За асобай знікалі асобы,
Хоць «у-р-р-а-а!» не сціхала ўвушшу,
А пакуты вышэйшае пробы
Навылет праціналі душу.

За калючым напружаным дротам
Я да болю спазнаў усяго,
Але быў неразлучны з народам
І часцінкаю кроўнай яго.

Сёння б мне нарадзіцца нанова,
Але ўжо не сляпым і глухім,
Каб С У М Л Е Н Н Е - адзінае слова
Засталося пашчадкам маім.

**КАЛЕКІ**

Цяпер калек амаль што не відно,
Яны нібыта канулі на дно,
Адолеўшы нягоды ўсе і здзекі,
Але жывуць, як і жылі даўно,
На свеце непрыкметныя калекі.

Сляпыя лепей за відушчых бачаць,
Што і сябры і несябры іх значаць,
Ім зразумелы ўвесь складаны свет.
Яны не скардзяцца, не плачуць,
А пакідаюць свой прыкметны след.

Калекі ёсць з нагамі і з рукамі,
З нястомнымі даўгімі языкамі
І з каршучынай сілай зроку,
Што прабіваюцца наперад кулакамі,
Каб не застацца ззаду або збоку.

У іх энергіі на цэлы генератар,
Бо кожны з іх салодкага аматар
І горкага ніколі не мінае —
Глытае ўсё, нібыта алігатар,
І жыць яму нішто не замінае.

О, колькі ж вас, укормленых калек,
Нагадаваў наш неспакойны век?
З душой бетоннаю і без душы,
Сабе на радасць, некаму на здзек,
Калі камандуюць: «Трымай, ламі, душы!»

А самі выдаюць казённыя прамовы
Пра дасягненні і пра росквіт мовы,
Ад кожнае хваробы маюць лекі,
Але відно — прыём у іх не новы...
Пара на пенсію, таварышы калекі!

## НАРОД

Мы, напэўна, адзіныя ў свеце
Што забылі, як маці завуць.
Так і нас ацураюцца дзеці
І спакойна свой век дажывуць.

Разбяруць яны ўсё да асновы,
Не забудуць каня закілзаць,
Толькі роднае матчына слова
Не захочуць у спадчыну ўзяць.

Хто ж знявечыў і памяць, і слова,
Немаце забяспечыў размах?
Паўстагоддзя сумленне і мову
Адымалі знявага і страх.

У душы не загояцца болькі,
Бо ідзе наша мова на звод.
Так насельніцтвам зробімся толькі,
Калі з моваю знікне народ.

## СІЛА

Сіле розуму не трэба.
Знай адно: ламі, крышы,
Здабывай кавалак хлеба

І — нічога для душы.

Каб дужэць і моц не траціць,
Каб ніхто не перамог,
Дужы нават бацьку з маці
Скруціць у барані рог.

Дужы шмат не разважае,
Толькі слухае загад,
Толькі тых і паважае,
Хто выплочвае аклад.

Бачылі аднойчы сведкі,
Як дубінкай ён трасе,
На магілах топча кветкі
І таго, хто іх нясе.

Ён лютуе безупынку,
Ён штурмуе на хаду.
Мы ж яму далі дубінку
Самі на сваю бяду.

## МАЎЧАЛЬНІКІ

Спрачаюцца,
хвалююцца,
крычаць
Хлапцы за мову, за лясы і рэкі,
А вось славутасці маўчаць —
Ні бэ
ні мэ
ні ку-ка-рэ-ку.

Баяцца дэмакратыі яны,
Таму ў палоне змрочнага настрою,
Бо званні, прэміі і ардэны
Ім даставаліся ў пару застою.

Іх прывучылі так галасаваць,
І пляскаць у далоні па заданню,

І кожнаму ўсміхацца, і ўставаць,
Што лепш ніхто не плясне і не ўстане.

На іх — амаль што вечнасці пячаць,
А ім усё чагосьці мала.
Хлапцы за мову,
за лясы крычаць,
Але маўчаць
зацята аксакалы.

**ЧАРГА**

Нас павучаюць: «Ленін сам стаяў
Па шклянку чаю ў сталоўцы,
Усім пакрыўджаным спрыяў
І сірат гладзіў па галоўцы.

Таму ў Правадыра вучыцеся усе
Спагадзе, ласцы і ў чарзе стаянню
І прывыкайце пакрысе
Нястачы ўсе ўспрымаць без хвалявання».

У чэргах паўстагоддзя мы стаім,
Прывычныя да хамства і абразы,
І толькі з ідэолагам сваім
Не стрэліся у чэргах аніразу.

Чым ён харчуецца штодня?
Паветрам, пэўна, ці вадою з крана?
А сыты ж сам, і кормная радня
Яму цытаткі спісвае старанна,

Каб павучаць усіх натхнёным сказам,
Пад'еўшы балыка і пірага...
Пакуль ён з намі ў хвост не стане разам,
Ніколі ў нас не кончыцца чарга.

## ЗВОДНЫ ХОР

Здаецца, гэта — страшны сон:
Піяна і крашчэнда
Пяюць харысты ва ўнісон
Астатні опус Бэндэ.

Гучаць суладна галасы,
І за салістам тэму
Вядуць адны, адны басы:
«Хутчэй лаві нацдэма».

Відаць, з архіва прывалок
Ім дырыжор пахмуры
І, кроў адмыўшы, даў знарок
Старонкі партытуры.

Мы ачунялі пакрысе,
І ведаюць нямногія,
Як калаціліся усе
Ад той тэрміналогіі.

Ды зноў задзягваюць басы:
«Нацдэмы», «змовы», «зборышчы»,
І падбірае ж галасы
Той самадзейны хор яшчэ.

Які ж зацяты дырыжор
На нотах ставіў галачку,
Каб заспявалі «до-мінор»,
Прыняўшы ў Бэндэ палачку.

Як апантаны, зводны хор
Усе паблытаў тэрміны
І, перайшоўшы на мажор,
У поўнач кліча Бермана[1]

А прачытаўшы перад сном
Вячэрнюю газету,

[1] Берман — былы нарком НКУС БССР.

Узніклі краты за акном
І Бэндэ з таго свету.

Не трэба мне набыткаў мець
Ні мала і ні многа,
Баюся толькі анямець
З увішнай дапамогай.

Хто ж дырыжор? Каму служыць
Наняўся ён нанова?
Відаць, за крэселца дрыжыдь
У час п е р а б у д о в ы.

**ЮНАКІ**

Колькі вас загінула,
скажыце,
Дзе вас пахавалі і калі?
Не ў стаптаным беларускім жыце,
А ў чужой знявечанай зямлі.

Колькі вас,
яшчэ не цалаваных,
Не спазнаўшых радасці ў жыцці,
Заціскала вогненныя раны
І дамоў не здолела прыйсці?

Што дала ў трынаццатым стагоддзі
Тая непатрэбная вайна?
Вамі ў кожным жудасным паходзе
Сплочана крывавая цана.

Што і ад каго вы адстаялі?
Дзе вы свой закончылі паход?
Многія сабе заваявалі
Помнікі у васемнаццаць год.

І цяпер у апусцелай хаце
Праклінае кожны дзень вайны
І глядзіць заплаканая маці

Не на сына, а на ардэны.

...На чало жалобнай Беларусі
З жалем пазіраю ўсё часцей.
Хоць не веру ў Бога, а малюся
Я за ўсіх унукаў і дзяцей.

**ПАВАГА**

Мы развучыліся смяяцца
І паважаць саміх сябе,
Адданыя нялёгкай працы
І непатрэбнай «барацьбе».

За што я толькі не змагаўся?
За новы быт
і за калгас,
Не сумняваўся, не вагаўся,
Бо ясна ўсё было для нас.

Заўжды было адзінадушша
Ад Брэста і да Калымы,
Ды толькі, што такое душы,
Не ведалі з маленства мы.

А нешта горача смылела,
Сумненні мучылі спярша,
Пакуль не зразумеў нясмела,
Што ные ўсё-такі
душа,

Што ёсць спагада і сумленне,
Што жорсткасць «барацьбы» міне.
Пакуль я думаў, на калені
Цішком паставілі мяне

І так аблыталі хлуснёю,
Так апаганілі душу,
Што ўжо лічылася віною,
Калі нічога не схлушу.

Найбольшы грэшнік і злачынец
Трапляе ў пекла толькі раз,
А я аж двойчы
без прычыны
Прайшоў яго ў кароткі час.

Нас болей пеклам не пужаюць
У час сумлення і падзей,
Нібыта нават паважаюць
Бядою мечаных людзей.

## ДЗВЕ МАМЫ

### Ваўчыца

Знайшлі ваўчынае лагло.
Брахаў сабака як наняты,
Хоць і ваўчыцы не было,
Вішчалі толькі ваўчаняты.

Іх скідалі ў каляны мех,
Перавярнулі ўсю бярлогу.
Паехалі.
І свежы снег
Замёў да раніцы дарогу.

А ў поўнач у канцы сяла,
За хатай пад вярбой пахілай,
Завея лютая гула
І жаласна ваўчыца выла.

Стагнала нема поч у ноч
Ад болю,
стомы і марозу,
І падалі з гарачых воч
На ледзяную сцежку слёзы.

Ад сцюжы заінела поўсць,
Як абручы, тырчалі скабы,
У горле клекатала злосць,

Скрываўленыя нылі лапы.

Нацятая, нібы струна,
Паўзла туды, дзе ваўчаняты,
Ды ўдарыла святло з акна,
І выбег паляўнічы з хаты.

Пераляцеўшы цераз плот,
Імчалася ў хмызняк ваўчыца,
Але жакан
і буйны шрот
Яе дагналі за крыніцай.

Яна ляжала да пары,
Пакуль не адгула віхура...
І доўга у глухім двары
На плоце
вымярзала шкура.

**Вясёлая мама**

Вялізная колькасць сірот пры жывых бацьках (па статыстыцы — 100 тысяч штогод, 95 працэнтаў ад агульнай колькасці сірот).
*«Литературная Россия», 1988. № 6*

У лесе на аўтобусным прыпынку
Забыла маці сонную дзяўчынку
І з'ехала сама у белы свет.
Завеяў пыл яе няцвёрды след.

Дзяўчынка недзе доўгімі начамі
У дзіцячым доме цягнецца да мамы.
Ёй часам хлусяць добрыя суседзі:
«Не плач. Яна вось-вось прыедзе».

Чакае. Але мамы ўсё няма.
Мінула восень, адгула зіма,
І за вясною прашумела лета.

Ей хлусядь:
«Мабыць, не дастаць білета,

А можа, захварэла не на жарты,
Таму чакай, а бедаваць не варта».
Дачка чакае, як дзівоснай явы,
І спіць спакойна на руках Дзяржавы.

А мама недзе у бязладдзі шэрым
Гуляе зноў з чарговым кавалерам,
А потым хлапчука або дзяўчынку
Забудзе на глухім лясным прыпынку.

Няўжо і праўда — варта павучыцца
Такой вясёлай маме у ваўчыцы.

**КЛОПАТ**

Стварылі нам усе умовы,
Каб адвучыць ад роднай мовы.
Мы паступова ўсе нямеем —
Ні думаць,
ні спяваць не ўмеем
На мове Коласа з Купалам,
Бо пераконваюць з запалам
Зацятыя функцыянеры,
Што можна лёгка жыць без веры
У запаветы Скарыны,
Бо мы —
Бязродныя сыны,
Што і адной хапае мовы.
Навошта ж нам тлуміць галовы?
А дзе, якія ў нас вытокі,
Не варта лішняе марокі,
Бо ёсць адзін дэвіз: «Наперад!»
Але баліць душа,
як верад,
Што робім, крок,
а два — назад
І не выконваем загад.

А нам патрэбны не загады,
А больш увагі
і спагады,
Душы
і чыстага сумлення,
Ад чынадралаў вызвалення,
Каб беды ўсе перамаглі
Сыны Савецкае зямлі.

**ДЭМАКРАТЫЯ**

*З. С. Пазняку*

Намаўчаліся з кляпам у роце,
Зацягнулі папружкі тужэй.
Чынадрал на ранейшай рабоце
Марыць,
як бы ўтрымацца даўжэй.

Бюракратаў ад сёл да сталіцы
Не адзін расплядзіўся мільён,
А да іх
і сілком не прабіцца
Пфаз глухі
сакратарак заслон.

Нехта ганьбу з паклёпамі строчыць,
І складае даносы ў тамы,
І атрутаю пырскае ў вочы,
Каб нічога
не ўбачылі мы.

Іх нямала яшчэ на пасадах,
Бо наўкол сваякі і радня,
Задаволеных,
сытых і радых,
Што вяртушкамі верцяць штодня.

За галоснасць,
за праўду з сумленнем
Даражэй анічога няма.

паставім хлусню на калені —
Дэмакратыя ўкленчыць сама.

## ІНЕРЦЫЯ

Усё ты ведаеш, усё ты разумееш,
Што можна, а што нельга і чаму,
Ты слова кожнае прасееш і правееш,
Бо ўсё табе вядома аднаму.

Не тая опера, у п'есе многа солі,
А ў вершы аптымізму не стае.
Адказныя інструкцыі на столі
Запісаны, як ісціны твае.

Хоць сам не ведаеш ніводнай ноты
І нават да верлібра не дарос,
А крэсліш бездакорныя работы
І учыняеш аўтарам разнос.

Ды раптам нечакана стала млосна,
Аж сківаць звярнуў направа боль,
Калі загаварылі пра галоснасць,
А ты дасюль усё глядзіш на столь.

## ГОЛЫЯ КАРАЛІ

О, колькі голых каралёў
Жыве і ходзіць паміж намі,
І ўсе ў кальчугах з медалёў,
З пасадамі і з ардэнамі.

І кабінеты, і чыны
Ім дасталіся ў час нягоды,
За іх трымаюцца яны,
Хоць голыя заўсёды.

**МАНАЛОГ ПЕНСІЯНЕРКІ**

Ні гармонікам, ні песняю
Нас не радуе ніхто,
Толькі дзед, што носіць пенсію,
Часам стукне у акно.

Зіркне, як шчарбаты месяц,
Нешта схлусіць пра калгас
І прапаў, бо кожны месяц
Ён прыходзіць толькі раз.

Нешта шыеш, нешта пораш
Ды куплены хлеб жуеш,
Гучна з радзівам гаворыш
І пытанні задаеш,

А яно і не адкажа —
Ўсё гаворыць пра Каір,
Пра жніво, здабыткі нашы
Ды пра барацьбу за мір.

Ломіць крыж у непагоду,
Хоць ты літасці малі...
Мы ж змагаемся заўсёды,
А рабіць няма калі.

Я няўвагу прабачаю
І што песня ў іх адна,
Але ўсё ж не выключаю
Рэпрадуктар давідна,
Нават сплю і прыкмячаю,
Быццам дома не адна.

Дажываю век з бядою,
З ёю ўстану, лягу спаць,
А прачнуся — зноў надоі,
Зноў касьба і сенажаць,

Зноў пра парыхтоўкі мяса
І гаворыць, і пяе,

Дзе, чаго, якім калгасам
І чаму не дастае.

Слухаю і ўсё дзіўлюся
На світанні і ўначы:
Нас ніхто ж у Беларусі
Жаць і сеяць не вучыў,

Самі сеялі і жалі,
Мелі плуг, касу і цэп,
І таму нас паважалі
За вяндліну і за хлеб.

Мы ж заўсёды шчыравалі
Ад відна і да цямна,
Злыдням спуску не давалі,
А цяпер чыя віна,

Што ўсяго адзін гаруе,
Ды і той часцей з калек,
Але ім штодня кіруе
Аж трынаццаць чалавек.

Хтось крычыць: «Ары па снезе,
Не чакай сухой вясны»,
Бо крыкун у крэсла лезе,
Дзе высокія чыны.

Потым сам жа акт падпіша,
Што насенне звёў мароз,
Што яшчэ на полі мышы
З'елі жыта і авёс.

Ну а сам, бы кормнік, сыты
Рады, што з калгаса ўцёк,
І заместа світкі — світу
За сабою прывалок.

Так вось думаю штодзённа
І ўздыхаю пакрысе
Ды чакаю паштальёна —

Можа, радасць прынясе

Ад дзяцей, што збеглі з дому
І даўно кіруюць мной,
І бяскормніцу, вядома,
Я лічу сваёй віной,

Бо дзяцей не прывучыла
На загоне шчыраваць...
Ноччу вёска як магіла,
Нават плачу не чуваць.

## НА ЗМЯРКАННІ

За вокнамі — снег,
І — лясы, і лясы,
У замеці знікла дарога...
Я думаю часта,
Што ў нашы часы
Да Ісціны так, як да Бога,
Ніяк не прабіцца,
Ніяк не дайсці,
Ніяк не паставіць хлусню на калені.
Адзіны ратунак
У нашым Жыцці —
Забытая Праўда, Любоў і Сумленне.
За вокнамі снег, і — лясы, і лясы,
І нехта блукае ўначы недалечка,
Гукае, і ледзьве чуваць галасы,
А я на змярканні запальваю свечку.

## МАЕ ЖУРАЎЛІ

Мне семдзесят пяць,
А здаецца, учора
Мне людзі прысвоілі
Тытул селькора,
Я ў вецер і ў стынь
Прабіваўся па снезе,

Каб лямпу хутчэй
Засвяціць у лікбезе.
Да поўначы там
Засядалі камбеды,
І «Мы — не рабы»,—
Паўтаралі кабеты,
А потым у Менску
На беразе рэчкі
Вясной бушавалі
Студэнцкія спрэчкі.
Мы вершы чыталі
З агульнае згоды,
Ды пільна за намі
Сачылі сексоты,
Каб нас паздаваць
У калматыя лапы,
Што рукі круцілі
І гналі ў этапы.
Я верыў, што будуць
Не вечна нягоды,
Што Праўду здабудзем,
І ўжо назаўсёды.
Дажыў, дачакаўся
Жаданае волі,
Каб гора не ведаў
Ніхто і ніколі.

Мае жураўлі
Узнімаюцца клінам,
А я іх прашу:
«Пачакайце
хві-лі-ну!»

## СТРАШНЫ СУД

Мне сніўся страшны суд.
О, як падсудных многа —
Святых і праведных
І грэшных пазнаю,
І перад мудрым і суровым Богам

І я навыцяжку стаю.

Ён перагортвае мае дасье
І робіць на палях паметкі.
Калоціць страх, калі усе
З'явіліся пакрыўджаныя сведкі.

Былы хлапчук стаў барадатым дзедам
І сведчыць, што ў пару пякельных зім
Я сто гадоў назад сваім абедам
Не здагадаўся падзяліцца з ім.

І следчы колішні, хоць выгнаны з пасады,
Гатоў згнаць усіх да аднаго,
Бо праз мяне за «превышенье» ўлады
На гэты свет адправілі яго.

Глытаюць зарубежныя таблеткі,
Бо смеласці і моцы не стае,
Упартыя
разгневаныя сведкі —
Даўнейшыя каханыя мае,

Амаль шкілеты колішніх дзяўчынак
Даводзяць Богу,
што мая віна
У тым, што ўзяў надоўга адпачынак
І жонкаю не стала ні адна.

А каб тады яны мяне засеклі
І ўбачылі, як ноччу павялі
І у якім я апынуўся пекле,
Такога б кавалера праклялі.

А вось дрыжыць ссівелы выпівоха,
Над ім гайдаюцца і неба, і Зямля.
Ён папракае
і мяне
і Бога,
Што на пахмелку не далі рубля.

Юнак абвінавачвае ў няўвазе,
Бо не пусціў «у паэтычны клан».
Я запісаць прашу, што ў кожным сказе
Ён — безнадзейны графаман.

Прашу, нарэшце, злітавацца: «Божа,
Я з пекла выскачыў, дык пеклам не карай,
А твой прысуд, магчыма, дапаможа
І мне пуцёўку выпрасіць у рай».

Хвалююся, і веру, і не веру —
Прысуд падпісаны. Малі ці не малі...
Ды раптам нехта адчыняе дзверы.
Прачнуўся.
О, як добра на Зямлі!

**НА ГЭТЫМ СВЕЦЕ**

Я быў, і неаднойчы, на тым свеце
І не праліў ніводнае слязы,
Калі мяне адвозілі ў карэце
Рэаніматары аж тры разы.

І аніяк не вымаліць ратунку
Амаль што на смяротным рубяжы.
Як ні круці — выцягвайся у струнку
І нерухома дзень і ноч ляжы.

Не ўпэўнены, жывы ці нежывы я,
Вяду з кашчаваю каргою доўгі торг
І прад'яўляю на жыццё правы я,
Яна ж ласкава запрашае ў морг.

А я ўпінаюся, кажу: «Чакаюць дзеці
Даўно мяне ў пакойчыку пустым»—
І пераконваю, што і на гэтым свеце
Ніколечкі не горай, чым на тым.

А смерць дае прывабную параду,
Што буду я ляжаць, нібыта туз,

І што мяне па трэцяму разраду
Ў каміннай залі адпяе Саюз.

Маю анкету ўзяўшы за аснову,
Адолеўшы начальніцкі цяжар,
На паніхідзе
                    па паперцы слова
Прамовіць кансультант
                                        ці сакратар.

Не, любая кашчавая, не трэба
Агітаваць.
                    І як ты ні хвалі
Той свет.
                    Замест спакою неба
Мне даспадобы неспакой Зямлі.

І не тлумі мне болей галаву:
Я тройчы паміраў —
                              аднойчы пажыву.

* * *

На скрыжаванні раніцы і ночы
Не аціхае неадольны боль
І зноў пакуты новыя прарочыць
І на старыя раны
                              сыпле соль.

Пякельны боль маланкаю заблiскаў,
Гатовы скінуць з вышыні ў пралёт.
Не ўратавацца мне,
                              бо самы блізкі
Прабіць гатовы сэрца навылет.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ

Непагодныя дні.
                    Ні прасвету, ні сонца,
Толькі вецер гудзе і гудзе увушшу,

І пякельным туманам нябачаны стронцый
Раз'ядае істоту маю і душу.

Я нікольні наступнай вайны не баюся,
Не, у атамным пекле Зямля не згарыць,
Не дрыжу перад будучай бойкай у скрусе,
Бо ніхто і нікога не зможа скарыць.

Хоць не будзе вайны, не ўзарвуцца ракеты,
А жыццё не ўратуе ніхто і нідзе:
Смерць ідзе па Зямлі, выбіраючы мэты
У паветры, на сушы, у мёртвай вадзе.

Мы патруцім сябе радыяцыяй, газам,
Выесць вочы і душы настылыя дым.
Смерць нячутна ідзе, каб не згінулі разам,
А знікалі павольна адзін за адным.

У нябыт адыходзяць счарнелыя пушчы,
Самагубствам канчаюць маржы і кіты.
Акіяны і рэкі дзівак невідушчы
Вынішчае ў прыпадку сваёй слепаты.

За мільёны гадоў не здалелі скалечыць
Так Зямлю, як яе пакалечылі мы.
І сябе і яе давялі да галечы,
А яна ўсё маўчыць, як цярплівы нямы.

А каб мела язык, як яна б закрычала:
«Пашкадуйце, няшчасныя, хоць бы сябе.
Ці не бачыце вы, што «вучонасці» джала
І бяздумная пыха ўсё жывое заб'е.

Знікнуць людзі і рэкі, салавей адспявае,
І, магчыма, з галактык убачаць здаля,
Як павольна плыве, у Сусвеце нямая,
У адвечнай жалобе пустая Зямля».

Уратуйце Зямлю, апантаныя людзі.
Можа, шчасце хоць вашым
прапраўнукам будзе!

* * *

Не падглядай праз шчыліну ў дзвярах
Мае расчараванні і пакуты.
Ад позірку твайго калоціць страх,
Добразычлівец мой з абліччам Юды.

Мяне ты больш ужо не прадасі
За грош, за срэбранік, за паўчырвонца.
Як ні старайся, рады не дасі
І ў змроку не схаваешся ад сонца.

Я ведаю — не адзінокі ты,
Увішны і актыўны ўсюды.
Здаецца некаму, што ты святы,
Добразычлівец мой з абліччам Юды.

## САТЛЕЛЫЯ ЛІСТЫ

Твае лісты прапахлі лесам
І пылам жытняе красы,
Крутое рошчыны замесам
І кропляю скупой слязы.

А я паміж радкоў чытаю,
Чаго не папісала ты,
Бо я не той
                    і ты не тая,
Адны
          ранейшыя — лісты

З далёкай нашай маладосці,
З тае вясны,
                    з тае зімы,
Калі не крыўды
                              і ні злосці
Яшчэ не разумелі мы.

Пытальнікі, шматкроп'і,
                              кропкі,
Паперы колішняй памер

І почырк дробны і таропкі
Мяне хвалююць і цяпер.

Лісты, сатлелыя на зломах,
Сухі, збялелы васілёк
І слабы пах лясоў знаёмых
Хвалююць і цяпер здалёк.

Гартаю ў апусцелай хаце
З лістамі даўнія гады,
І нельга даравацць, што страціў
Твой адрас
                    і твае сляды.

Куды, каму цяпер напішаш
Даўно запознены адказ?
І надалёка тая ціша,
Калі ніхто
                    не ўспомніць нас.

## БЕЛАЯ НОЧ

Дарога, быццам з алебастры,
У лёгкай шэрані сады,
На шыбах — папарацць і астры,
А ў небе — месяц малады,

Аздоблены ружовым кругам
У цёмна-сіняй цішыні,
У мітульзе, за дальнім лугам,
Гарацць халодныя агні.

То прывідным, то воўчым вокам
Знікаюць, каб ізноў зайграць,
То знічкай упадуць звысоку,
То ў стылым снезе дагарацць.

Такая бездань нада мною,
Сузор'і неба замялі...
Мне ўсё здаецца навіною,

А я — пясчынка на Зямлі.

## БЫВАЙ

Дагарае захад, дагарае,
Зелянее на лугах туман,
Дзе ж ты, азавіся, дарагая,—
Даўняя надзея і падман.

Нашыя дарогі разышліся
На мяжы сумлення і маны.
Дзе ж ты, дарагая, азавіся
З прывіднай далёкай даўніны.

Нас ніхто ніколі не пачуе,
Мы знікаем, як начны туман.
Дагарае захад, і хачу я
Хоць у сне убачыць тонкі стан.

Юнаю, іскрыстаю прысніся
І мяне ні ў чым не дакарай.
Калі ж ты жывая, азавіся,
Каб было каму сказаць «Бывай».

## НА АПОШНЯЙ ВЯРСЦЕ

Позні мой вечар,
як ціхая восень:
Долу злятаюць лісты.
Гэта — пара і жніва, і дакосін
Каля апошняй вярсты.

Сонца заходзіць, плыве павуціна,
Ціха і пуста ў палях,
І на змярканні журбой жураўлінай
Млечны гайдаецца Шлях.

Дзе мая радасць?
Дзе маё гора?

Дзе мая папараць-кветка цвіце?
Можа, калісьці, а можа, учора
Звяла яна на апошняй вярсце.

Не адшукаў яе, не дачакаўся.
Падаюць восенню зоры часцей.
Як ні гукаю, не дагукаўся
Шчасця свайго на апошняй вярсце.

## ЖАДАННЕ

За ноч пасівела зямля
І шэрань лугі прысаліла,
А сосны здаюцца здаля
Укрытыя срэбраным пылам.

Нбыта яшчэ не зіма,
А далеч у ціхай трывозе,
І восень выходзіць сама
Па гулкай настылай дарозе.

Настала чакання пара,
Спавітае сэрца ў кунегу,
Запахла пад вечар з двара
Іскрынкамі першага снегу.

Нябачная легла мяжа
На стыку сустрэч і расстанняў,
Павольна знікае імжа,
І снег на світанні растане,

На сцежках лісты зашумяць
Самотных дубоў і акацый,
А мне б перайсці цераз гаць
І новай вясны дачакацца.

## ПЕРАД ЗАСЛОНАЙ

Усе мы трошачкі артысты,

І роля ў кожнага свая.
То абы-як, а то ўрачыста
Іграў сябе самога я.

З усіх няма цяжэйшай ролі,
Бо не хапае з неба зор
І не падказвае ніколі
Жыццё —
суровы рэжысёр.

Кім толькі я не быў на сцэне,
Каго я толькі не іграў?
То быў узнёслы летуценнік,
То ўваскрасаў,
то паміраў,

Рамэо быў, Шыльёнскім вязнем,
Адолець Гамлета хацеў,
Ды, збіўшыся на першым сказе,
У апраметную зляцеў,

І зала адказала свістам
На непрадбачаны правал.
Відаць, заўсёды быць статыстам
Мой горкі лёс ці ідэал.

Ніхто не заўважаў старання
Да зморы і да забыцця,
Калі гайдаўся я на грані
Сапраўднай смерці і жыцця.

Іграў я ўмела, то няўмела,
Бывалі спады і напал,
Пакуль душа не пасівела
І не наблізіўся фінал.

Знялі фанерныя калоны,
Скруцілі заднікі ў рулон.
Вось-вось апусціцца заслона...
І я выходжу на паклон.

* * *

Калі б перапісаць на чыставік
Маё жыццё і ўнесці карэктывы,
Магчыма, мой наступнік ці двайнік
Лічыў бы, што ён вольны і шчаслівы.

Закрэсліваю тыдні і гады,
А ў іх — недаравальныя пралікі,
І пакідаюць у душы сляды
Маленькі грэх і грэх вялікі.

Хоць сам знарок ніколі не грашыў,
І грэшных думак не было ніколі,
А страт маіх і час не заглушыў
І мне дасюль папрокам вочы коле.

Я распінаю кожны дзень сябе,
Гатовы пасадзіць душу за краты,
Бо памяць неадольная дзяўбе,
Што сам перад сабою вінаваты.

Я здатны захапляцца навіной,
Часова ўзняцца нават на узвышша,
З пралікамі змірыцца і з віной,
А вось жыццё ніхто не перапіша.

## ДОЎГАЕ РЭХА

Я адзін каля вогнішча ў полі,
Толькі іскры мігцяць і мігцяць,
То знікаюць у дыме паволі,
То да зор таямнічых ляцяць.

Я адзін. Толькі вецер трывожна
У ракітніку голым гудзе,
Можа, ў полі зблудзіў падарожны
І дарогу не знойдзе нідзе.

Я гукаю, і доўгае рэха
У асенняе поле плыве,

То замоўкне, то зноў на пацеху
Азавецца самотнай саве.

Я адзін каля вогнішча ноччу,
Толькі ўласны гайдаецца цень.
Я на зоры гляджу і прарочу
Ясны ранак і сонечны дзень.

## ТРЭБА ЖЫЦЬ

У кожнага — адзіная дарога
Ад метрыкі да некралога,
А паміж імі, як заўжды,—
Хвіліны радасці і горычы гады,
Раскаяння імгненні, раздарожжы
І захапленне: «Свет такі прыгожы!»

Хвіліна за хвілінай — час бяжыць,
І як ні цяжка, але трэба жыць:
Стаяць у чэргах, з хлебам ці без хлеба,
І жыць, пакуль і ты камусьці трэба.

**ЗМЕСТ**

Грахоўскі С.

Споведзь: Аповесці і вершы.— Мн.: Маст, літ., 1990 - 399 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-00818-5.

На споведзі гавораць толькі праўду. Прыспела пара і паэту Сяргею Грахоўскаму голасна паспавядацца перад сваімі сучаснікамі, расказаць пра пакутныя дзесяцігоддзі сваёй маладосці і сталасці, пра трагічныя лёсы сяброў і знаёмых — партыйных работнікаў, пісьменнікаў, артыстаў, вучоных і калгаснікаў, знішчаных і замардаваных у пару сталінскіх рэпрэсій.

У кнігу ўвайшлі дзве аўтабіяграфічныя аповесці і вершы апошніх гадоў.